ецца дзесь у больш пэўных і спрыятлівейшых ёй краінах.

Колькі будзе яшчэ трываць гэткі сяньняшні стан, наразе цяжка сказаць. Як таксама цяжка сказаць, у якія краіны накіруецца наша эміграцыя, дзе яна абсядзе і ці дазволяць ёй абсесьці дзесь буйнейшымі беларускімі асяродкамі,ці яна будзе змушана рассеяцца па цэлым сьвеце паадзіночна?

Затое можна з пэўнасьцю сьцьвердзіць, што беларуская эміграцыя ў Францыі нятолькі што ня мае тэндэнцыі да разьезду, а наадварот, тут ужо выразна зарысавана тэндэнцыя даплыву.

Вось тут міма волі сам лёс і зноў накідае ролю «Б. Н.» застацца «цантральным» органам прынамсе на час немінучай і ў незадоўгім часе новай вялікай вандроўкі беларускай эміграцыі і адыгрываць ім «Б. Н». зноў ролю таго пасярэдніка-зьвязковага.

**Бяз гэтага нашай эміграцыі пагражала-б небясьпека нанава разгубіцца на якісь час, а хто ведае, можа і на досьць даўгі час застацца бяз ніякага між сабой зьвязку.**

**Радакцыя «Б. Н.», сабраўшы нанава свае сілы, горача заклікае ўсіх сваіх сяброў, чытачоў таксама нанава напружыць усе свае высілкі і памагчы «Б. Н.» перажыць гэты найкрытычнейшы мамэнт.**

**Верым, што кожны сьведамы Беларус добра здае сабе справаздачу з усёй сур'ёзнасьці і паважнасьці нашае сытуацыі наагул. Добра сабе здае справаздачу ў канечнай неабходнасьці існаваньня «Б. Н.» і ў іх, як можна, больш рэгулярным выхадзе. А дзеля таго ўжыве ўсе магчымыя спосабы, каб дапамагчы «Б. Н.» у іх, як можна, больш частым выхадзе.**

**Нашым баявым лёзунгам мусіць быць: за ўсялякую цану, усімі сіламі, мусім утрымаць «Б. Н.» як орган, які нявідзімымі ніткамі вяжаць нашу эміграцыю ў цэлым сьвеце.**

**РАДАКЦЫЯ.**

# БЕЖАНСКІЯ СПРАВЫ

### ПРАМОВА ВЫШЫНСКАГА У СПРАВЕ БЕЖАНЦАУ НА КАНФЭРЭНЦЫІ А. С. Н.

На адным з апошніх паседжаньняў эканамічна-сацыяльнай сэкцыі А. С. Н. на якім абмаўлялася пытаньне дапамогі бежанцам савецкі дэлегат Вышынскі выступіў з доўгай прамовай, у якой ён востра супроцьставіўся арганізацыі міжнароднай апекі бежанцам. Акцыю гэту ён назваў «опасной игрой».

Вышынскі ўжо не наставаў на прымусовай рэпатрыяцыі, толькі пратэставаў супроць арганізаванай апецы бежанцам, бачучы ў гэтым выкарыстовываньне бежанцаў супроць Савецкага Саюзу».

Гутарачы аб беларускіх бежанцах у Нямеччыне Вышынскі заявіў, што «Беларускі Камітэт у Рэгэнсбургу займаецца прапагандай за адарваньне Беларусі ад СССР і выдае фальшывыя фашыстоўскія дакуманты».

Якое ўражаньне зрабіла заява Вышынскага на дэлегатаў А. Народаў — адносна намераў Беларускага Рэгэнсбургскага Камітэту аб адарваньні Беларусі ад СССР — сказаць цяжка.

Ня можа, за тое, быць ніякага сумліву, каб заява Вышынскага адносна выдачы Беларускім Камітэтам фальшывых **фашыстоўскіх** дакумэнтаў — магла быць кімсь прынята ў сур'ёз, бо запраўды-ж, каму гэта з Беларусаў і дзеля чаго сяньня патрэбныя фашыстоўскія дакуманты?

### МІЖНАРОДНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ДЛЯ БЕЖАНСКІХ СПРАВАУ

На апошнім пленарным паседжаньні Канфэрэнцыі А. А. Н., якая адбылася ў Нью-Ерку, пастаноўлена стварыць міжнародную арганізацыю для бежанскіх спраў.

Супроць стварэньня гэткай арганізацыі галасавалі: Расея, Беларусь, Украіна, Польша і Чэхаславацыя. Іншых 30 дзяржаў галасавалі — **за.**

Бюджэт для гэтай арганізацыі вызначаны 40 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў. Сядзібай будзе Парыж або Жэнэва.

Функцыянаваць гэта арганізацыя распачне пасьля таго, як вышэйшая пастанова будзе ратыфікавана ня менш 15 дзяржавамі.

### СЕЦІ НА БЕЛАРУСКІХ БЕЖАНЦАУ У НЯМЕЧЧЫНЕ

Адыйшоўшыя ад Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы епіскапы Расейцы, агледзіліся нарэшце, што іх «стада», за якое яны самавольна распісаліся пры ўліцьці да Расейскае Царквы, за імі не пайшло, пачалі таму абходзіць Беларусаў навокал зь невадам.

Пяць з гэных епіскапаў занадта выразна паказаўшы сябе кім яны былі і ёсьць, не паважываюцца самі безпасярэдня выходзіць да зраджаных імі сваіх вернікаў. Дзеля таго яны выпускаюць у «аблавы» двух іншых з былых беларускіх епіскапаў, на якіх яшчэ быццам застаўся цень беларускасьці. Праз пасярэдніцтва гэтых апошніх яны стараюцца разьбіць адзінства беларускай эміграцыі. Твораць свае ячэйкі з рознага здэгэнэраванага і апартуністычнага элемэнту, намагаюцца стварыць сетку свае арганізацыі, г. зв. «праваслаўных Беларусаў», вярбуюць найменш палітычна граматных Беларусаў, на якіясь паселішчы за акіян і т. п.

Ня гледзячы на тое, што мэтады, якімі яны карыстаюцца для разьбіцьця нашага нацыянальнага адзінства вельмі зношаныя (імі карысталіся ўсе расейскія цары) нельга аднак да іх раскладовай працы адносіцца абыякава. Беларускае грамадзянства ў Нямеччыне мусіць **ведаць, што акцыя, вылоўліваньня і вылучываньня праваслаўных Беларусаў ад супольнага беларускага нацыянальнага фронту на ёсьць акцыйя «беларускіх» епіскапаў, самастойнай.**

Беларускія дзеячы ў Нямеччыне павінны добра выясьніць менш сьведамым палітычна нашым братом, што епіскапы, адыйшоўшыя ад Беларускай Аўтакефальнай царквы і ўліўшыся да зарубежнай царквы расейскай гэтым самым ўліліся і ў агульна культурна-палітычны зарубежны расейскі цэнтр. І нам зусім ня цікава, ці цэнтрам гэтым кіруюць расейскія «единонеделимцы» з Вашынгтону ці дзесь з усходу, важна нам адно, што ўсе гэтыя «единонеделимцы» варожжыя нятолькі беларускаму вызвольнаму руху, а і самай беларускай культуры, дзеля таго ўсялякія іхнія палітычныя, культурныя ці рэлігійныя акцыі заўсёды былі і будуць дзеяць, каб нас зьнівэляваць з гарызонту. Беларускае сьведамае грамадзянства ў Нямеччыне мусіць таму самым энэргічным спосабам адкінуць усялякія іхнія пасярэдніцтвы, бо гэта ёсьць ні-больш, ні-менш, як хітрыя сеці на нашыя душы, а ад гэтакіх «душпастыраў» — душахватаў трэба адхрышчавацца.

З свайго боку радзім нашым братом і сёстрам у Нямеччыне ня шукаць шчасьця за морам, а пастарацца дастацца ў Францыю. Гэта будзе і лягчэй і выгадней. А калі ўжо і выяжджаць за акіян, дык ня праз замаскаваныя расейскія агэнцыі, а шчыльнымі радамі, ня дзелячыся па рэлігіі, праз свае беларускія арганізацыі, бо усё тое, што маскуецца, крые ў сабе ашуканства.

**М. Л.**



# З ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ

За досьць кароткі час маладая адраджэнчая беларуская навука аканчальна разьбіла хлусьлівыя «тэорыібасьні» аб тым, што Беларусь — край убогі, Богам пакрыўджаны, а таму, гаспадарча асабліва, залежны ад ласкі сваіх суседзяў.

Усе гэтыя байкі сяньня разьвеяліся, як дым. З кожным годам факты жыцьця паказваюць адваротнае, а іменна, што Беларусь мае невычарпальныя багацьці як падземныя, так і надземныя.

Маладыя беларускія вучоныя, пачынаючы з 1929 г. выкрылі шэраг нёпачатых багацьцяў Беларусі; як зялезна-магнітную руду, нафтавыя басэйны, залежы солі, сярэбраныя пяскі, залежы бурага вугалю, невычарпальныя багацьці бэтонавага каменя і т. п.

Праўда, усе гэты багацьці сяньня знайходзяцца ў нераспачатым стане эксплёатацыі. Прычына гэтаму тая, што сучасная расейская сыстэма — цанталізацыі і індустрыялізацыі — кіраваная з Масквы, ня спрые разьвіцьцю беларускай нацыянальнай індустрыі і промыслу. І няма сумліву, пакуль Беларусь будзе на становішчы «пэрыфэрыйнай рэспублікі» разьвіцьцё яе індустрыі будзе штучна тармазіцца (аб гэтым пагутарым шырэй іншым разам).

Адзначым цяпер толькі той факт, як беларуская нацыянальная эканоміка, ня гледзячы на так цяжкія вонкавыя абставіны, жывасільлем прабіваецца якраз у напрамку свае нацыянальнае абасобленнасьці. Гэта праяўляецца асабліва выразна ў тых дзялянках гаспадарчага жыцьця Беларусі, якія знайходзяцца, дзякуючы сваім выключна прыродным прывілегіям, паза ўсялякімі ўмовамі канкурэнцыі цанталістычных інтэнцыяў Расейскай імпэрыі.

Вось некулькі фактаў, якія падаём у дасло̆ўным перакладзе з савецкай расейскай прэсы.

### Каўчуковая прамысловасьць.

На вясьне 1946 г. у Беларусі было засеяна 20.000 гэк. кок-сагызу (расьліна, зь якой выробляецца каўчук і якая выключна добра родзіць у Беларусі на балоцістай глебе).

### Новая каўчуковая расьліна ў Беларусі — «Берасклет». Плянтацыі берасклету.

«Известия» 2.6.1946 г. Менск, 1-га чэрвеня (па тэлефону ад уласнага карэспандэнта). У Беларусі шмат берасклету. Асабліва густа расьце гэты карчавік у лясох Магілеўшчыны, Берасьцейшчыны і Горадзеншчыны. Лесхозы рэспублікі спраўджаюць ягоную каўчуканоснасьць У заходніх вобласьцях Беларусі заложана некалькі школак культурнага берасклету. Праз год яны дадуць расаду, якая будзе пасаджана на спэцыяльных плянтацыях.

Культываваны берасклет — цэнная сыравіна для гумовай прамысловасьці. Летась лясная гаспадарка Магілеўшчыны здала прадпрыемствам гумовай прамысловасьці першыя шэсьць з паловай тон карэньняў берасклету.

### Дабываньне торфу.

Менск, 1.4.46 (па тэлефону ад уласнага карэспандэнта). Беларусь мае агромныя запасы торфу. У апошняй пяцігодцы дабываньне гэтага цэннага апалу ўзрасьце ў некалькі разоў

Сёлета пачнуць працаваць некалькі новых прадпрыемстваў і сярод іх гігант торфадабываньня — Осінторф. Арганізуецца вытворчасьць тарфянога абсталяваньня. Гомельская хвабрыка «Двигатель революции» пачала выпускаць часткі да тарфяных машынаў. Хвабрыка пашыраецца. Пачынаюць працаваць мэханічны, адліўны і кавальскі аддзьзелы. У 1947 г. «Двигатель революции» будзе выпускаць скамплікаваныя торфаздабывачныя машыны.

### Новыя прадпрыемствы лесахімічнай прамысловасьці.

Менск, 6.4.46. (Карэсп. «Правды»),

У Нароўлянскім і Ельскім раёнах, Палескай вобласьці, будуецца 6 хвабрык для вырабкі смалы, драўлянага вугалю, дзёгцю, тарпантыны. У хуткім часе будуць урухомленыя такія-ж тры хвабрыкі ў Жытовіцкім раёне.

### Сады Беларусі.

«Известия», 13.4.46. Менск, 12.4 (па тэль. ад улас. кар.)

Беларусь багатая садамі. Шматлікія досьледы паказалі, што ў яе кліматычных умовах вельмі добра расьце вінаград. У раённым цэнтры Чэрвень, Менскае вобласьці, ужо пятнаццаць гадоў займаецца гадоўляй вінаграду знаняніты старац-дасьледчык Даніла Колас. Цяпер, на базе ягонага вінаградніка арганізуецца закладны пункт Беларускай дасьледчай фруктова-агароднiцкай станцыі.

### Першая беларуская цукраварня.

«Правда» 19.5.46. Менск, (Кар. «Правды»). Летась у Горадзеншчыне было пасеяна 3.500 гак. цукровых буракоў. У некаторых самастойных сялянскіх гаспадарках ураджай яе дасягаў да 660 цэнт. з гак. Шмат якія спэцыялісты лічылі, што беларускія цукровыя буракі ня маюць вялікай колькасьці цукру і таму хвабрычная перапрацоўка эканамічна не аплаціцца. Сапраўднасьць паказала адваротнае. Ня гледзячы на скрайна неспрыятлівыя ўмовы прошлага лета, цукровасьць буракоў, выгадаваных на сялянскіх гаспадарках Горадзеншчыны і іншых раёнаў Беларусі дасягала да 18-19%.

У 1946 г. у Горадзеншчыне плянтацыі цукровых буракоў займуць 5.000 гак. а ў 1950 г. плошча, занятая пад цукровыя буракі ўзрасьце да 10.000 гак. У Беларусі творыцца свая цукровая прамысловасьць. У Скідэльскім раёне, у Горадзеншчыне, пачалося будаўніцтва першай беларускай цукраварні. У 1948 г. цукраварня пачне працу.

**Беларуская народная гаспадарка чакае рук з сэрцам моцна кахаючым свой Край і Народ.**

